# Наша газэта атрымала два папярэджаньні

НАВІНКІ

29 мая - 5 чэрвеня 2003 №15(94) Кошт свабодны




Беспрэцэдэнтную зачыстку распачало напярэдадні сэзону водпускаў Міністэрства інфармацыі РБ: адразу тройка выданьняў запар атрымала па некалькі афіцыйных папярэджаньняў. Сярод «штрафнікоў» апынуліся газэты *Навінкі* (2), *Белорусская Деловая Газета* (3 разам з дадаткам *БДГ. Для служебного пользования*) і *Народная Воля* (1). З такім судзействам неўзабаве ў гульні застануцца толькі *Советская Белоруссия* ды *Японские кроссворды*...

## Бліц-крыг супраць нячэснай прэсы

Стар.2

## Оф-сАйд

### Ад лаўкі запасных – Да лавы падсудных

Арол ці рэшка, вырашае судзьдзя.
Рэфэры ў полі – краіны арбітар.
Лажануўся ў гульні – адкажы за базар,
Сачы за мятлой, галкіпэр.

Сьвісток, парушэньне правілаў – вон!
Над спартсмэнам урач у белым халаце.
Нам патрэбны высокатэхнічны «футбол»,
Парушальніку месца ў «прэс-хаце»!

Заволодаў мячом – апрацуй,
Да варот бягі хутка.
Гуляй па паняціях, а не як лох,
Сьцеражыся – «кумаўская мутка»!

Роў трыбун,
Мяч па-за гульнёй – у аўце.
Мясцовы «Мілан» праб'е ўпрыканцы
Апошні дзяржаўны пэнальці.

Ярыла Пшанічны

***Шаноўныя чытачы!***
*Не бяз сувязі з рознымі пэртурбацыямі, праз якія сёньня праходзіць нашая газэта, улетку чакайце аднаўленьня працы нашага сайту:* **www.navinki.net**

**МОДНЫ ПОСТЭР у падарунак ад рэдакцыі** на стар.4-5

Сьледзтва вядуць **КАЛАБКІ**



Дэтэктыўны комікс на стар.8

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 29.03.2003г., а 00.01. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у ПРУП «Чырвоная Зорка», г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №2390

# Бліц-крыг супраць нячэснай прэсы




Не пасьпелі мы ачухацца ад нядаўніх судовых разьбіральніцтваў і прымочкі ў 700 зялёных, як новая напасьць – у гульню ўступіла Міністэрства інфармацыі. Як не адразу стала вядома, Мінінфармацыі таксама была да глыбіні душы абураная фактам абразы гонару й годнасьці прэзыдэнта, у чым і расьпісалася, выпісаўшы на наш адрас першае за 5 гадоў нашага існаваньня папярэджаньне. Аднак ужо на наступны дзень выявілася, што газэта *Навінкі* – гэта ня толькі гнюсны абражальнік прэзыдэнта, але й рупар амаральнасьці й распусты, пра што можна было даведацца з другога папярэджаньня. На гэты раз «парушэньне» закону, як можна было зразумець з тэксту афіцыйнага дакумэнту, «допущенное в № 11 (90) этого года в материалах, напечатанных под рубрикой «Опиум для народа» и в №8 (87) этого года за заголовок на странице «Аналитика», посягающих на нравственность граждан». І зноў назіраецца тая ж карціна, што прывяла галоўнага рэдактара ў суд – поўнае ігнараваньне чыноўнікамі кантэксту матэрыялу. Нажаль, ні ў першым, ні ў другім выпадку не канкрэтызуецца, дзе дакладна і ў якім кавалку мы маглі замахнуцца на «обліко морале» нашых суайчыньнікаў. Гэта стварае своеасаблівыя загадкі, якія можна вырашыць хіба што з дапамогай лінгвістаў, што мы й зьбіраемся зрабіць. Узяць хаця б матэрыял з №8, прысьвечаны вайне ў Іраку. Магчыма, лічба ў 30 баксаў – гэта замала або, наадварот, замнога. А можа быць тут крамольныя словы «баксы» – намёк на валютныя апэрацыі, і трэба было напісаць 60 тысячаў (у адпаведнасьці з курсам НБРБ) або на худы канец 30 у.а.? А можа не спадабалася слова «адсасаць»? Дык, здаецца, атруту з раны пасьля ўкусу гадзюкі менавіта адсасваюць (адсмоктваюць), а не адлізваюць ці выкусваюць. А вы пра што падумалі, спадары чыноўнікі?!

Так ці йнакш, але, відаць, сапраўды ўлады ўзяліся за кляпаньне пракруставага ложку дзяржаўнай ідэалёгіі і распачалі «зачыстку» сярод палітычна недабранадзейнай публікі. Разам з «абражальнікамі прэзыдэнта й ворагамі маральнасьці грамадзянаў» з газэты *Навінкі* пад раздачу патрапілі й такія бабры пяра і клявіятуры, як *БДГ* і *Народная Воля* ●

## БДГ: *ідзем на рэкорд?*

Рэдакцыя *Белорусской деловой газеты* на гэты раз канкрэтна патрапіла пад ідэалягічную «зачыстку» і атрымала запар тры папярэджаньні ад Міністэрства інфармацыі. Першае зь іх *БДГ* упарылі за артыкул «Барский имидж» (*БДГ* за 18.04.2003), у якім, на думку міністра Падгайнага, утрымліваліся «недакладныя зьвесткі пра тое, што Прэзыдэнт прадаставіў Сьвятлане Каралёвай самалёт кіраўніка дзяржавы для пералёту ў Маскву». Паводле Міністэрства, публікацыя «ня толькі ўводзіць у зман грамадзянаў Беларусі, але і зьневажае гонар і годнасьць Прэзыдэнта».

Наступнае папярэджаньне было вынесенае газэце *БДГ. Для служебного пользования* за сэрыю публікацыяў пад агульнай назвай «Афганские борзые» і артыкул «Магический кристалл», апублікаваны ў № 3 (14) за сакавік г.г. Як гаворыцца ў папярэджаньні, у публікацыях «фактычна апраўдваецца карупцыйная дзейнасьць былога кіраўніка «Белдзяржхарчпраму» Казекі В. і ягонага сына – начальніка аддзелу збыту РУП «Крышталь» Казекі А., а супрацоўнікі праваахоўных органаў выстаўляюцца лабістамі інтарэсаў крымінальных структураў...»

Другі раз запар *БДГ* была папярэджаная за публікацыю «Где «леоновские миллионы»? Прокуратура республики не может ответить на этот вопрос. Ищет...», якая зьявілася ў №62 ад 29.04.2003 г. Міністар інфармацыі сьцьвярджае, што газэта апублікавала матэрыялы крымінальнай справы без пісьмовага дазволу судзьдзі, чым і парушыла закон.

Такім чынам, на рахунку газэт *БДГ* і *БДГ.Для служебного пользования* цяпер аж 4 папярэджаньні (17-га красавіка г.г. Міністэрства інфармацыі ўжо раза ўставіла пістон газэце *БДГ. Для служебного пользования* за публікацыю «Система жертв не считает. Опала довела бывшего министра до самоубийства» №4 (15) за красавік 2003 г.), а Пётар Марцаў заняў верхні радок хіт-параду парушальнікаў Закону «Аб друку».

Але на гэтым мытарствы аднаго з галоўных рупараў дэмакратыі ня скончыліся, бо паводле заканадаўства за 2 папярэджаньні выданьню пачынае сьвяціць лёс *Свабоды*, *Пагоні* ды іншага *Рабочага*. І ў дачыненьні да *БДГ*, відаць, улады намагаюцца прымяніць «вышку» або прынамсі яксьлед патрапаць нэрвішкі. Як стала вядома, Мінінфармацыі прыпыніў дзеяньне ліцэнзіі абодвух *БДГ* на тры летнія месяцы, так што наступны нумар газэты можна будзе пачытаць акурат перад «Дажынкамі». Натуральна ж, як заявіла галоўная рэдактарка абодвух выданьняў Сьвятлана Калінкіна, усе абвінавачаньні на адрас БДГ беспадстаўныя і надуманыя, таму сваё права на існаваньне беларускія дзелавыя газэтчыкі будуць даводзіць праз суд ●

## *Петрасяны* з Народнай Волі

Як кажа старажытная народная мудрасьць «Добра сьмяецца той, хто сьмяецца апошні». Менавіта пра гэта забыліся, відаць, журналісты *Народнай Волі*, друкуючы чарговы крамольны матэрыял пра сучаснага дысыдэнта Леонава. А між тым можна было б зрабіць карысныя высновы з досьведу намесьніка галоўнага рэдактара гэтага выданьня Аляксандра Сіліча. Гэты небарака, будучы ў добрым гуморы з нагоды 1 красавіка, даволіў сабе нявінна пажартаваць ды й настрачыў амаль што на перадавіцы, што нібыта Садам Хусэйн прыбыў у Менск і катаецца зараз сабе недзе зь сябрам на ролікавых каньках. Ну, пажартаваў, пасьмяяўся ды забыў сабе. А між тым адпаведныя органы ня спалі ў шапку. Праз паўтары месяцы, акурат калі кліент, бясьпечна забыўшыся пра свой крамольны жарт, сасьпеў і парыўся быў на майскім сонейку, таго ненавязьліва запрасілі ў пракуратуру й прапанавалі даць адпаведныя тлумачэньні на гэты конт. Такім чынам, відаць, вартаўнікі закону паспрабавалі прадэманстраваць вясёламу й знаходліваму журналісту, што сэнс пакараньня не ў ягонай хуткасьці, а ў ягонай непазьбежнасьці.

Аднак гісторыя А.Сіліча не пайшла на карысьць іншым ягоным жартаўнікам-калегам. Вынік – папярэджаньне *Народнай Волі* ад Міністэрства інфармацыі за публікацыю артыкулу пра суд над Леонавым, у якім таксама пільнымі чыноўнікамі былі ўгледжаныя парушэньні закону ●

## *ХрОнікі пратЭсту*




**20 мая каля будынку суда стыхійна ўзьнік пікет абураных падпісчыкаў *Навінак*, якія не дачакаліся новага нумару.**




**Працоўны калектыў газэты гнеўна пратэстуе супраць рабаўнічага штрафу ў памеры агульнай запазычанасьці па жабрацкай зарплаце.**




**Прадстаўнік грамадзкасьці, які далучыўся да акцыі пратэсту адразу пасьля ўласнага вызваленьня, агітуе журналістаў не спыняць барацьбу за свабоду слова.**




**На прэс-канфэрэнцыі ў БАЖы 26 мая была даведзеная рашучасьць дабівацца зьняцьця ўсіх несправядлівых абвінавачаньняў на адрас газэты *Навінкі*.**




**Маскоўскі «Клюб чытачоў газэты *Навінкі*» пікетуе беларускую амбасаду, патрабуючы спыніць рэпрэсіі супраць незалежнай прэсы.**




**Хваля беспарадкаў захлынула Эўропу. Акцыі адбыліся ў Кіеве, Варшаве, Гданьску, Беластоку, Стакгольме, Празе, Бэрліне і інш.**

 



# Дзяржаўнае графіці

## альбо хто пэцкае нашыя дзьверы




Жыць стала можа й ня лепш, але, відавочна, весялей. Што, напрыклад, раней можна было прачытаць на дзьвярах у сярэднестатыстычным пад'езьдзе? Акрамя мату, можна было даведацца пра месца жыхарства пэдагогаў бліжэйшай школы і міліцыянэраў, а таксама пра іх полавыя стасункі з бліжэйшымі сваякамі. Дзьверы каталікоў упрыгожвалі зразумелыя толькі вернікам і студэнтам матфаку ўраўненьні накшталт *К+М+В=2003*. Здавалася б, што новага можа зьявіцца на нашай зямельцы гаротнай. На гэты раз Гомель наперадзе ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва. Кіраўнік гомельскага вадаканалу А. Амелін адным рухам вырашыў некалькі такіх важных праблемаў: як упрыгожыць мясцовыя пад'езды, даць дадатковыя тэмы для абмеркаваньня пэнсіянэрам, што цёплымі летнімі вечарамі сядзяць у падворках, ну і напрыканцы, хоць як паўплываць на тых, хто ня выплаціў запазычанасьць за ваду. На дзьвярах апошніх работнікі вадаканалу крэйдай пішуць колькасьць запазыкі. Варта адзначыць, што такой увагай з боку вадаканалаўцаў будуць адзначаны толькі тыя жыхары Гомелю, якія ня плоцяць больш за тры месяцы. Першая рэакцыя даўжнікоў атрымалася вельмі эмацыйная, але ж гэта напэўна не канец нашае гісторыі. Уявіце сабе як будуць выглядаць дзьверы малазабясьпечаных гамельчан, калі да вадаканальшчыкаў далучацца ўсе астатнія камунальшчыкі. Добра было б, калі б улады гораду, прафінансавалі ўсталяваньне на дзьвярах жыхароў дошкі накшталт тых, што стаяць у школьных клясах, і барацьбітам з запазычанасьцямі пісаць прасьцей было б, і гэтыя надпісы ўпрыгожвалі б выгляд пад'ездаў ●

**Адам Непісьменны**

# Любоў да гроба

*К нам сегодня приходил некропедозоофил, Мёртвых маленьких зверушек он с собою приносил*

Ухуткім часе ў сувэнірных крамах Беларусі, акрамя надакучыўшых усім сувэнірных мэдалёў з выявамі беларускіх гарадоў, партрэтаў прэзыдэнтаў, вымпэлаў, вышываных рушнікоў і саламяных конікаў, можна будзе набыць прыгожыя, зробленыя з добрага дрэва і інкруставаныя саломкай невялічкія труны розных памераў. Справа ў тым, што берасьцейская сувэнірная фабрыка паставіла на паток выраб трунаў для хатніх жывёлаў. Кемлівыя прадпрымальнікі маюць надзею, што труны, самая даражэйшая з каторых каштуе каля 40 тыс. беларускіх рублёў, знойдуць сваго пакупніка сярод заможнай часткі насельніцтва. Ня кожны дзень гаспадар пазбаўляецца свайго любага пітомца. А таму момант, калі сабачкі, коцікі, марскія сьвінкі і хамячкі сканчаюць свой зямны шлях і пераходзяць на наступную ступень рэінкарнацыі, павінен застацца ў памяці назаўсёды. Гэтаму і павінная садзейнічаць навінка берасьцейскіх сувэніраробаў.

Айчынныя вытворцы абяцаюць, што калі труны будуць карыстацца попытам, то плянуецца пачаць іх вытворчасьць з больш танных матэр'ялаў, каб вырабы сталі больш даступнымі для шырокага пакупніка. Адзінае пытаньне застаецца ня вырашаным, што рабіць людзям зь негабарытнай хатняй жывёлай. Такой, напрыклад, як вярблюд, дзесяціметровыя пітоны, жырафы і г. д. Мабыць, як і раней, зарываць без труны? ●

Днём і ноччу не спыняюць працу народныя ўмельцы. Краіне патрэбныя труны.




# Кавёр-самалёт



Кемлівыя віцебскія вытворцы знайшлі вырашэньне сваіх фінансавых праблемаў і вырашылі зарабіць крыху грошаў на шалёным расейскім патрыятызме і растучай у нашых усходніх суседзяў папулярнасьці прэзідэнта Расеі Ўладзіміра Ўладзіміравіча Пуціна. У маі першая партыя жакардавых дываноў, зьвязаных з сынтэтычных, льняных і хлопкавых нітак памерам 100х140 сантымэтраў з выявай першага прэзыдэнта Расейскай Фэдэрацыі, апранутага ў дзюдаісцкае кімано, паступіла ў Волагду.

Здавалася б, хто ж будзе набываць гэтыя цуда-дываны? Толькі чыноўнікі лізаблюды, каб павесіць у сваім кабінэце ў знак вечнай адданасьці. Але ж не тут та было. Акрамя дзяржаўных установаў, такіх, напрыклад, як арбітражны суд, адміністрацыя горада Чарапаўца і некалькіх школ, прэзыдэнцкія дываны, нягледзячы на нямалы кошт (1100 расейскіх рублёў, што на нашыя грошы будзе прыкладна 36,666 даляраў) карыстаюцца попытам і ў звычайнага насельніцтва. Сакрэт папулярнасьці хучэй за ўсё крыецца ў памерах прадукта. Справа ў тым, што дываны менавіта такога памеру лепш за іншыя падыходзяць у «хрушчоўскія» прыхожыя і, як родныя, пакрываюць падлогу ў сумесных санвузлах. Так што цяпер братам нашым меншым і бобікам будзе вельмі прыемна расьцягнуцца ля дзьвярэй на каленях у роднага прэзыдэнта ●

**Паліграф Шарыкаў**

## ФОтатЫдзень

### Калі б фотка магла гаварыць

Днямі ў Менску адбыўся чарговы конкурс прыгажосьці «Міс БДУ-2003». Даўганогія мадэлі зь ліку студэнтак галоўнай вышэйшай навучальнай установы краіны паказвалі судзьдзям сваё ўменьне хадзіць па подыюму і насіць купальнік. У журы акрамя вядомага мадэльера Сашы Варламава быў заўважаны сам рэктар БДУ Казулін.







У рамках праграмы NATO «Партнэрства дзеля міру» былі праведзеныя сумесныя беларуска-польскія вучэньні інжынэрных войскаў.

Небывалую палітычную актыўнасьць дэманструе прэм'ер-міністар краіны Генадзь Навіцкі. 29 мая ён зьдзейсьніў працоўную паездку ў Барысаў. У пляны візыту ўваходзіла наведваньне чатырох буйных заводаў гораду. Старшыня ўраду разглядзеў прапановы кіраўнікоў гэтых прадпрыемстваў па пераадоленьню адставаньня ад азначаных прагнозных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця.







Прэзыдэнт падчас рабочай паездкі ў Шклоў наведаў калёнію і сустрэўся са зьняволенымі, якія там адбываюць пакараньне.

Пакуль азія пакутуе ад атыповай пнэўманіі ў Беларусі лютуе мэнінгіт. Па розных дадзеных колькасьць захварэўшых у Гародні дасягае 200 чалавек, зь якіх асноўную частку складаюць дзеці да 14 гадоў. Мясцовыя ўлады супакойваюць насельніцтва і вінавацяць СМІ ў распаўсюдзе неправеранай інфармацыі.






 

# НАС *не* ДАГОНЯЦЬ!



kampramat@tut.by

# НАВІНКІ

Газэта для здаровых людзей

# Сон розуму нараджае гранты

Вока менчука або госьця гораду-герою, які 27 мая рабіў ранішні мацыён каля менскага Палацу Мастацтваў (вул. Казлова 3), ня мог ні радзражніць дзіўны пэрфоманс. На прыступках Палацу кілбасіўся самадзейны калектыў. Натоўп, мянты, прэса.

Віноўнікам пампезнага шоў, як высьветлілася, быў Ёганэс Лін – віцэ-прэзыдэнт Сусьветнага Банку (СБ) ў Малдове, Беларусі і Ўкраіне. Ён прыляцеў у беларускую мэтраполію на конкурс інавацыйных ідэяў грамадзкіх арганізацыяў «Узмацненьне ролі для паляпшэньня якасьці жыцьця», пад правядзеньня якога й арэндавалі харомы Палацу. Спадар Лін і сябры журы швэндаліся па залі, разглядалі стэнды канкурсантаў, і, кіруючыся шэрагам крытэраў, (адпаведна праспекту СБ: інавацыйны падыход, эфэктыўнасьць выкарыстаньне сродкаў, партнерства з насельніцтвам устойлівасць), адбіралі бенефецыярыяў.

Кожны з 45 прадстаўленых удзельнікаў мог папоўніць свой лапатнік на 15 000 баксаў!

Такая шчодрасць сп.Лінна, якой пазайздросціў бы нават Савва Марозаў, не павінна здзіўляць чытача. Сеньня СБ самы крупны спонсар неўрадовых арганізацый у галактыкі.

Нездаровая жарсць башляць недзяржаўным арганізацыям (НДО) узнікла ў банкіраў не так даўно. Да серадзіны 80-х гадоў створаны ў 1946г. Сусветны банк (СБ) трымаў «Трэцці сектар» бедных краінаў ў чорным целе. Эндошнікі не жалавалі ліберальныя праэкты СБ і фактычна рэкруціравалі праз свае структуры сябраў радыкальных антыкапіталістычных рухаў. На працягу 1973-1988 гг. НДО перападалі кроплі – прыблізна 6% ад штогадовага бюджету праектаў WB. Эксперты часоў амерыканскіх прэзідентаў Кеннеді і Джонсана, як правіла, займаліся этычнай адукацыяй адміністратараў краінаў Трэцьцяга свету: «дэмакратыя добра, а камунізм –- кака».

У пачатку 80-ых пасля перамогі Рейгана на выбарах прэзідента США у кіраўніцтва СБ прыйшлі тыффозі Чыкагскай неалібаральнай школы.

У пошуках новых фаварытаў СБ яны звярнулі ўвагу на НДО. К гэтаму часу НДО, былыя заўзятыя аппаненты банка, ужо размежаваліся па крытэрыю наяўнасці капусты. Аўтсайдзеры сядзелі на бабах. Лідары прафесіаналізавалі сваю дзейнасць: вывучылі тэхніку здабываньня грошаў (fund-raising), асновы маркецінгу (public relations), сталі нармалевымі менеджерамі.

Замест таго, каб бачыць у НДО крыніцу пагрозы банкіры вызналі іхні прафесіяналізм і значэньне для кантроля грамадскай думкі. З 1981г. пры СБ пачаў працу камітэт па працы з НДО. У 1995г. каб супрацьстаяць антыліберальным НДО быў створана ініцыятыва SARRI ( Structural Adjustment Participatory Review Initiative) на базе якога пазней быў заснаваны Civil Society Network. Яго галоўнай стала стварэньне пробанкаўскага НДОшнага лоббі ў кожным рэгіене свету.

За 5 гадоў з 1988 па 2997 доля НДО ў бюджэце пракектаў СБ вырасла з 5% да 47%. НДО, які япрацуюць з Банкам, становяца ўсе болей рэфармісцкімі ў сваіх патрабаваньнях. Іх праэкты больш арыентуюцца на касметычнае вырашеньне праблемаў экалогіі, гендырнай і сацыяльнай няроўнасці, пры гэтым не ставяць пад пытаньне саму неаліберальную мадэль, якую начаждае СБ. Гэтак у дакументах SARRI было запісана, што «галоўная прычына голаду не сістэма, не жаданьне бедных змагацца за вырашеньні пытаньняў у паўсядзенным жыцьці».

У 90-ыя гады СБ, банкіры разпісаліся у правале былых праграммаў структурнай перабудовы у бедных краінах. Канфузы, на іхнюю думку, былі звязаны з адсутнасцю інстытуцыйных фактараў рэформаў на месцах. Зараз НДО надаецца роль не толькі супервайзера грамадзянкай думкі, а таксама агента рэформаў. Для гэтага як піша Джеймс Паул СБ пачаў актыўна фінансаваць НДО, якія падменяюць сабою сістэмы сацыяльнай абароны.

Эўрыка у тым, каб пашыраць у іллюзію, што сацыяльны праблемы могуць быць вырашыны не каллектыўна, а праз асабістую ініцыятыву. Права патрабваць гарантаваную законам дапамогу ў дзяржавы падмяняецца правам прасіць дапамогу у дабрачынных арганізацый Аналізуючы чэлабітныя канкурсантаў на імя СБ не цяжка было ў гэтым пераканацца. Амаль ўсе канкурсанты СМ клянуцца у песрпекціве стварыць выгадные прадпрыемтва і не замінаць дзяржаўным мужам просьбамі аб дапамогі. Напрыклад, пінскія інфаліды-калясачнікі абяцаюць стварыць прадпрыемства, якое ім прынясе «гарантаваны заробак».

Кангельніяльная думка падмяніць прыватнымі ініцыятывамі і бізнесам усе сацыяльныя артыкулы бюджэта згуляла з СБ дзіўны прыкол. Праекцыя рынкавай тэрміналегіи на сацыяльныя праекты дае абсалютна варьяцкія прадукты.

Прапануем вам пазнаеміцца з фрагментамі некаторых грантавых заявак прадстаўленых на конкурсе 27 мая флагманаў трэцьцяга сэктару Украіны. Малдовы і РБ.

## Праект 45

**PR стратэгіі грамадзтваў – Арганізацыя – Чарнавіцкая гарадская грамадская арганізацыя Букавінскае партнэрскае агенцтва (БПА) (Украіна)**

**Мэта: «Судзеяньне ўстойліваму разьвіцьцю тэрытарыяльных грамадзтваў шляхам стварэньня і ўнядрэньня актыўнай PR-стратэгіі.**

**...Ужываньне падыходу да грамадзтву як своеасабліваму грамадзкаму прадукту, і, як сьледзтва, перанос тэхналягічнага і навуковага падыходу клясычнага мэнэджмэнту і маркетынгу да практычнай дзейнасьці ў сфэры ўстойлівага разьвіцьця грамадзтваў».**







## Праект 39

**Сацыяльная інтэграцыя дзяцей з групы рызыкі шляхам доступу да ведаў і адукацыю.**

**Арганізацыя: Цэнтар сацыяльнага разьвіцьця вёскі Суручэны (Малдова)**

**Мэта праекта: Стварэньне «Цэнтру ведаў» для дзяцей, дзейнасьць якога забясьпечыць сацыяльную інтэграцыю дзяцей з групы рызыкі.**

**З тэксту: «Пералічаныя паслугі Цэнтру (бібліятэка, кампутары, кіназал) забясьпечваюць больш устойлівую інтэграцыю, чым у выпадку іншых паслугаў, зьвязаных з харчовым забесьпячэньнем, праблемамі аховы здароўя або камфорту».**




## Праект В

**«Рэацыялізацыя ВІЧ-інфіцыяваных жанчынаў, вызваленых зь месцаў зьняволеньня»**

**Арганізацыя: «Сацыяльная дапамога» (Беларусь), Логас (Украіна), Грамадзкая арганізацыя Сацыяльнай Дапамогі (Малдова).**

**Мэта: фокус-група адчувае сябе ўпэўнена ў грамадзтве, здольная узаемадзейнічаць на роўных.**

**...Дзейнасьць: навучаньне (прым: ВІЧ-інфіцыяваных жанчынаў) прафэсійным навыкам шыцьця і вырабу сувэніраў з наступнай частковай рэалізацыяй.**

## Праект 34

**Школа традыцыяў «Зямля продкаў»**

**Арганізацыя: эколяга-інфармацыйны Цэнтар абароны Прыроды (Беларусь)**

**...Мэта: створеньне цэнтру па прапагандзе ідэяў устойлівага разьвіцьця і навучаньня мясцовага насельніцтва традыцыйным народным промыслам.**



## Праект 32

Аўтаагрэсія і сэксуальны гвалт сярод непаўнагадовых у турмах Малдовы
Арганізацыя: ОО Наватарскія праекты, Кішынёў
Мэта праекту: Псыхалягічная рэабілітацыя 300 падлеткаў, якія падвяргаюцца сэксуальнаму гвалту...
...Навізна: Асноўным мэтадам працы зьяўляецца сацыяльна-псыхалягічны трэнінг (СПТ), які будзе праводзіцца зь непаўнагадовымі і асабовым складам... У аснову сцэнару ўваходзяць такія псыхатэрапсыхатычныя мэтодыкі, як Арт-тэрапія, Гельштальт-терапія, Мэдытацыя. У ходзе СПТ будзе выкарыстовывацца рад мэтадаў: групавая дыскусія, аналіз канкрэтных сытуацыяў, ролевая гульня...




## Праект 22

Першапраходцы сельскага турызма
Арганізацыя: грамадзкае аб'яднаньне «Агра і экатурызм» (Беларусь)
Мэта: на працягу году навучыць групу сельскіх жыхароў асновам гасьцінічнага бізнэсу (bred&breakfest) стварыць пазытыўны падыход у жыхароў краіны да новага ў нашай краіне турыстычнаму прадукту «Адпачынак у беларускай вёскі», забясьпечыць устойлівую сувязь паміж турыстамі і гаспадаркамі сядзібаў.










## Праект 36

Інтэрактыўныя мадэлі рашэньня лякальных праблемаў
Арганізацыя: «Эўрапейскі дыялёг» (Львоў)
Мэта: ужываньне на прыктыкі прадстаўнікамі органаў мясцовага самакіраваньня мэтадаў прагназаваньня і аналізу наступстваў прынятых імі рашэньняў.
...Навізна прапанаванага падыходу: ужываньне падчас навучэньня кампутарных гульняў тыпу Sum Sity, якія дазваляюць змадэліраваць віртуальны населены пункт.




## Праект 12

Грамадзтва жыцьця і працы як новая форма дапамогі выключаным з грамадзтва
Арганізацыя: «Грамадства ўзаемадапамогі» (Украіна)
Мэта праекту: аказаньне актыўнай дапамогі людзям маргінальных групаў (у прыватнасьці бяздомным).
Вынікі: 10-15 бяздомных атрымаюць жыцьцё і працу, дзякуючы функцыянаваньню грамадзтва. Перакваліфікацыя прыкладна 30-ці чалавек у вобласьці мастацкага вырабніцтва (рэстаўрацыя мэблі) і абслугоўваньня кампутара. Зьмена грамадзкай думкі адносна праблемы бездомнасьці.

# Сьледзтва вядуць КАЛАБКІ

